- Чалавек Дамблдора ва ўсіх дачыненнях. Гэта правільна.

Скрымжэр яшчэ раз зірнуў на яго, затым развярнуўся і моўчкі сыйшоў. Гары бачыў чакаючую яго Персі і астатнюю дэлегацыю, з асцярогай паглядваючую ў бок усхліпваючых Хагрыда і Гроха. Рон і Герміёна паспяшаліся да яго. Гары развярнуўся і марудна пайшоў да іх. Яны сустрэліся ў цені букавага дрэва, пад якім так часта сядзелі ў лепшыя часы.

- Што жадаў Скрымжэр? - прашаптала Герміёна.

- Тое ж, што і на ражаство, - пацісннуў плячамі Гары. - Я павінен расказаць яму ўсё аб Дамблдоры і стаць новым міністэрскім хлопчыкам на пасылках.

Нейкі час Рон змагаўся з сабой, затым гучна звярнуўся да Герміёны:

- Слухай, дазволь мне вярнуцца і стукнуць Персі!

- Не, - цвёрда адказала яна, узяўшы яго за руку.

- Я адчую сябе лепш!

Гары засмяяўся. Нават Герміёна ўсміхнулася, але толькі на імгненне - дзяўчына паглядзела ў бок замка:

- Мне невыносная самая думка аб тым, што нам больш сюды не вярнуцца, - ціха вымавіла яна. - Як можна зачыніць Хогвартс?

- Верагодна, і не прыйдзецца, - выказаў здагадку Рон. - Наўрадці нам пагражае тут большая небяспека, чым дома. Зараз усюды аднолькава. Я б нават сказаў: Хогвартс бяспечней, у ім больш чараўнікоў для абароны. А ты як думаеш, Гары?

- Я не вярнуся, нават калі яго адчыняць, - адказаў сябар.

Рон здзіўлена зірнуў на яго, але Герміёна маркотна прагаварыла:

- Я ведала: ты гэта скажаш. Але што ты збіраешся рабіць?

- Я меў намер вярнуцца да Дурсляў - так жадаў Дамблдор, - пачаў Гары. - Але візіт будзе вельмі кароткім. Затым я сыйду.

- Але куды ты накіруешся, калі не ў школу? - папытаў Рон.

- Магчыма, у Годрыкаву лагчыну, - прамармытаў хлопчык. Гэтая ідэя ўзнікнула ў яго ў ноч смерці Дамблдора. - Для мяне ўсё пачалося там. Зусім усё. Я проста адчуваю, што павінен пайсці туды. І можна будзе ўбачыць магілы маіх бацькоў. Я б жадаў гэтага...

- І што потым? - выпытываў Рон.

- Затым я пачну шукаць сляды астатніх Хоркруксаў, - адказаў Гары, разглядаючы адлюстраванне белага надмагілля ў вадзе на іншым канцу возера. - Гэта тое, што ён жадаў, каб я зрабіў. Таму ён расказаў мне ўсё аб іх. Калі Дамблдор меў рацыю - а я не сумняваюся ў гэтым - існуюць яшчэ чатыры Хоркрукса. Я знайду іх, знішчу, а затым дабяруся да сёмай часцінкі душы Валан дэ Морта, заключанай у ім самым. І я той, хто збіраецца яго забіць. І калі я сустрэчу на сваім шляху Северуса Снэйпа... Што ж, тым лепш для мяне і горш для яго.

Доўгае маўчанне.

- Мы будзем там, Гары, - паведаміў Рон.

- Што?

- У доме тваіх дзядзькі і цёткі. Затым мы пойдзем з табой, куды б ты не накіраваўся.

- Не, - хутка адказаў Гары. Ён меў на ўвазе зусім іншае, жадаў даць зразумець, што збіраецца ў гэткае небяспечнае вандраванне адзін.

- Калісьці ты сказаў нам, - ціха напомніла Герміёна. - "ёсць час вярнуцца, калі захочаце". У нас быў гэты час.

- Мы з табой, што б не здарылася, - падтрымаў Рон. - Але сябра, ты наведаеш дом маіх бацькоў, перш чым зробіш нешта яшчэ. Нават Годрыкава Лагчына пачакае.

- Чаму?

- Біл і Флёр ажэняцца, не забыўся?

Гары здзіўлена зірнуў на яго. Думка аб тым, што ўсё ў парадку, калі вяселле ўсё роўна не адмяняюць, была дзіўнай і цудоўнай.

- Так, гэта мы не прапусцім, - нарэшце, пагадзіўся ён.

Яго рука аўтаматычна стулілася над фальшывым Хоркруксам. Але нягледзячы ні на што, нягледзячы ні на цёмны выхілясты шлях, які чакае яго наперадзе, ні на

фінальную бітву з Валан дэ Мортам, якая абавязкова адбудзецца - можа, праз месяц, год або дзесяць гадоў, - ён адчуў, як лёгка стала на сэрцы ад усведамлення: заставаўся яшчэ адзін, апошні, залаты дзень міру, каб атрымліваць асалоду ад яго разам з Ронам і Герміёнай.

………………………..

Калі вы знойдзеце памылкі ў перакладзе, калі ласка напішыце пра іх на мой электронны адрас: andrei92@tut.by

Зробім якасны пераклад разам!